# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

*красавік 2011 г.*

1 красавіка

## Лепшага прадпрымальніка Віцебскай вобласьці не пусьцілі на цырымонію ўзнагароджаньня



Лепшым прадпрымальнікам Віцебскай вобласьці быў прызнаны былы кандыдат у прэзыдэнты Ўладзімер Правальскі. Аднак на цырымонію ўзнагароджаньня яго не пусьцілі. Ушаноўваньне лепшых прадпрымальнікаў адбывалася 1 красавіка ў Віцебскім аблвыканкаме. Правальскі з жонкай прыбыў на цырымонію ў прызначаны час. Ён быў нямала зьдзіўлены, калі сакратар аргкамітэту сустрэў яго словамі: "Вам туды нельга".

Супрацоўнікі аховы МУС пацьвердзілі палітыку, што яго ня маюць права пускаць на цырымонію. Галоўны прыз - лепшаму прадпрымальніку Віцебскай вобласьці ў 2010 годзе - застаўся ў аблвыканкаме. Сам Правальскі расцаніў гэты акт як помсту з боку ўладаў за ініцыятыву правесьці рэферэндум, каб выказаць недавер Лукашэнку.

1 красавіка

## ГАЛАДОЎКА Ў ВОРШЫ

49-гадовы жыхар Воршы, удзельнік падзеяў 19 сьнежня Сяргей Малалеткін з 1 красавіка абвясьціў галадоўку. Галадоўка была абвешчаная на знак салідарнасьці з палітвязьнем Мікітам Ліхавідам, актывістам руху "За свабоду".

Малалеткін галадуе ў сябе дома. З раніцы 1 красавіка ўжывае толькі пітную ваду. Ён мяркуе галадаваць столькі ж часу, колькі будзе трымаць галадоўку М. Ліхавід. Спадар Малалеткін таксама быў удзельнікам менскай акцыі 19 сьнежня. Падчас разгону Плошчы-2010 яму выбілі зубы, зламалі руку, нанесьлі іншыя цялесныя пашкоджаньні. За ўдзел у акцыі суд аштрафаваў яго на 30 базавых велічынь - 1 мільён 50 тысяч рублёў.

7 красавіка

## Міліцыянты выбачыліся перад Тацьцянай Севярынец



Маці палітыка Паўла Севярынца запрасілі ў Першамайскі райадзьдзел міліцыі, дзе ёй вярнулі сканфіскаваны бел-чырвона-белы сьцяг і выбачыліся за затрыманьне, якое адбылося 25 сакавіка. У той дзень Тацьцяну Севярынец пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны, бо, як казалі міліцыянты, яна нібыта падобная да злачынцы, што ўчыніла ў Віцебску шэраг кватэрных крадзяжоў.

1 красавіка

### Сяргею Каваленку далі яшчэ 15 сутак

Віцебскі актывіст КХП БНФ Сяргей Каваленка на волі пабыў толькі 5 хвілін. Калі ён выйшаў з турмы пасьля сямі сутак арышту, яго зноў затрымала міліцыя. У Першамайскім райадзьдзеле міліцыі на Сяргея Каваленку склалі пратакол за парушэньне рэжыму, за што яму далі яшчэ 15 сутак арышту.

Папярэдні арышт Сяргею Каваленку быў прысуджаны 25 сакавіка - за тое, што актывіст выйшаў у цэнтар Віцебску з трыма бел-чырвона-белымі сьцягамі. Суд Чыгуначнага раёну прызнаў яго вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету, а таксама ў дробным хуліганстве - нібыта падчас затрыманьня спадар Каваленка нецэнзурна лаяўся.

Свой арышт С. Каваленка лічыць незаконным і на знак пратэсту мае намер галадаваць, аж пакуль ня скончыцца тэрмін яго чарговага зьняволеньня.



4 красавіка

### На дзясяты дзень галадоўкі Сяргей Каваленка быў шпіталізаваны

Сяргей Каваленка трапіў у кардыялягічнае адзьдзяленьне Першага гарадзкога клінічнага шпіталю. Зранку ў яго ўпаў ціск, і дзяжурная фельчарка ізалятару часовага ўтрыманьня выклікала "хуткую".

8 красавіка

### Сяргей Каваленка на волі!

Сяргей Каваленка нечакана адпушчаны на волю з ізалятару часовага ўтрыманьня. Сёньня актывіст быў выпісаны са шпіталю і пад канвоем дастаўлены ў ізалятар, дзе ён мусіў дасядзець дванаццаць сутак арышту. Аднак праз пяць хвілінаў міліцыянты заявілі яму, што ён вольны, аж пакуль ня будуць разабраныя ягоныя скаргі ў пракуратуру.

Сяргей Каваленка быў прысуджаны да двух арыштаў запар 25 сакавіка і 1 красавіка. Абодва свае тэрміны апазіцыянэр трымаў галадоўку на знак пратэсту супраць несправядлівых затрыманьняў і арыштаў. У выніку, на дзясятыя суткі галадоўкі, ён адчуў праблемы са здароўем і быў шпіталізаваны. Менавіта галадоўка, а таксама шэраг скаргаў у пракуратуру, спрычыніліся, на думку С. Каваленкі, да ягонага вызваленьня.

8 красавіка

## Жыхары Віцебшчыны зьвяртаюцца ў пракуратуру



Блізу 30 тэлефанаваньняў паступіла за першы тыдзень працы на гарачую лінію пракуратуры Віцебскай вобласьці. Частка атрыманых зваротаў датычыць працы праваахоўных органаў. Сталая тэлефонная лінія, на якую ў аўтаматычным рэжыме прымаюцца званкі пра факты карупцыі, злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі і іншыя парушэньні закону, пачала дзейнічаць у абласной пракуратуры ад 1 красавіка.

11 красавіка

## Віцебскія міліцыянты зьдзекуюцца з футбольных заўзятараў

Заўзятары жодзінскага "Тарпеда" выступілі на сваім сайце з заявай, у якой выказалі абурэньне дзеяньнямі віцебскіх міліцыянтаў перад матчам зь "Віцебскам", якія неаднаразова падвяргалі іх неабгрунтаванаму арышту. Першым актам самавольства з боку супрацоўнікаў аховы правапарадку стаўся арышт 8-мі непаўнагадовых заўзятараў, якія фатаграфаваліся ля нейкага славутага месца гораду. Матывуючы іх затрыманьне высьвятленьнем асобаў, хлопцаў пратрымалі ў мілцэйскім пастарунку больш за 3 гадзіны.




Перад пачаткам матча адбылося другое затрыманьне фанатаў. Гэтым разам колькасьць схопленых міліцыянтамі склала 23 асобы. Затрыманьне зьдзяйснялася ў жорсткай форме. На просьбу з боку заўзятараў паказаць дакуманты міліцыянты праз рацыю выклікалі падмацунак, пасьля чаго група аматараў футболу была закінутая ў аўтазак. Блытаючыся ў тлумачэньні прычынаў затрыманьня, дапытаўшы кожнага па два разы, зьняўшы на відэакамэру і ўзяўшы адбіткі пальцаў, супрацоўнікі міліцыі празь пяць гадзін нарэшце адпусьцілі футбольных заўзятараў.

Заўзятары назвалі дзеяньні міліцыянтаў правакацыяй і зьдзекам з прадстаўнікоў фан-грамадзкасьці ў горадзе Віцебску.

14 красавіка

## Пасьля выбуху ў мэтро міліцыянты наведаліся да братоў Мурашак

У дзень выбуху ў менскім мэтро міліцыянты двойчы наведалі дом Юрыя і Віталя Мурашак. Хлопцаў зноў падазраюць у тым, што яны могуць быць датычныя да тэракатаў. Віцяблян Юрыя і Віталя Мурашак ў 2005 г. блізу паўгода пратрымалі ў СІЗА па падазрэньні ў віцебскіх выбухах. "Яны думалі, што іх ня знойдуць, але іх хутка вылічылі, і цяпер яны даюць паказаньні," - гэтак казаў пра братоў Аляксандар Лукашэнка 21 кастрычніка 2005 г. Аднак віцябляне так і не прызналіся ў злачынстве. Пасьля таго, як Юры і Віталь былі выпушчаныя зь віцебскага СІЗА, міліцыянты турбавалі іх толькі аднойчы - 4 ліпеня 2008, пасьля выбуху ў Менску падчас сьвяткаваньня Дня незалежнасьці.



13 красавіка

## Віцебск смуткуе…



Жыхары Віцебску ўшанавалі памяць загінулых і выказалі падтрымку пацярпелым ў выніку выбуху ў Менскім мэтро. Акцыя, зарганізаваная праз сацыяльныя сеткі ў Інтэрнэце, адбылася на плошчы Перамогі. К 17:55, калі 11 красавіка ў мэтро здарыўся выбух, ля падземнага пераходу на плошчы сабралася вялікая колькасьць людзей, у асноўным моладзі. Віцябляне прыносілі кветкі, запальвалі зьнічы, потым адыходзілі ў бок і моўчкі стаялі.

Кветкі былі ўскладзеныя ў двух месцах ля ўваходу ў падземны пераход, а таксама ля фантану, дзе да рэканструкцыі плошчы Перамогі быў усталяваны знак, што паказвае адлеглась ад Віцебску да Менску і іншых гарадоў краіны. Некаторыя маладзёны разам з кветкамі пакідалі невялічкія плякаты: "Сьветлая памяць", "Гэта наша бяда", "Мы супраць тэрарызму", "Смуткуем, молімся". Сярод тых, хто прыйшоў ушанаваць памяць ахвяраў тэракту, былі вядомыя ў горадзе людзі, у прыватнасьці паэт Давід Сімановіч і маці палітыка Паўла Севярынца Тацьцяна Севярынец. Ейны сын цяпер знаходзіцца ў СІЗА КДБ па абвінавачаньні ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых непарадках.

Ва ўсіх гарадох і паселішчах вобласьці сёньня прыспушчаныя сьцягі, адмененыя забаўляльныя мерапрыемствы. Паводле дадзеных УУС, у горадзе працягваецца ўзмоцьненае патруляваньне месцаў з масавым знаходжаньнем людзей. На ўсіх аб'ектах жыцьцезабесьпячэньня (вадаканал, цеплацэнтралі, "Віцебскэнэрга") нясуць службу дадатковыя нарады дэпартамэнту аховы. УУС Віцебскага аблвыканкаму распаўсюджвае сярод насельніцтва інфармацыйныя ўлёткі, у якіх грамадзянам тлумачыцца, як яны мусяць паводзіцца ў выпадку выяўленьня незнаёмых прадметаў, па якіх тэлефонах трэба званіць.

14 красавіка

## Суд над школьнікамі-"забойцамі" скончыўся спагнаньнямі для пракурораў

Да адказнасьці прыцягнутая група працаўнікоў пракуратуры Віцебскай вобласьці і Генпракуратуры, што мелі дачыненьне да справы двух віцебскіх школьнікаў, якіх абвінавачвалі ў забойстве. Гэткае рашэньне прынятае па выніках разгляду прычынаў, якія пацягнулі вынясеньне Магілёўскім абласным судом апраўдальнага прысуду па крымінальнай справе аб забойстве 14 чэрвеня 2009 г. у Віцебску 30-гадовага грамадзяніна. Абвінавачванымі па ім праходзілі два віцебскіх дзевяціклясьнікі Аляксандар Напаюк і Аляксандар Новікаў. 29 кастрычніка 2009 г. яны былі апраўданыя судом за недаказанасьцю ўдзелу ў наўмысным супрацьпраўным пазбаўленьні жыцьця іншага чалавека (забойства), зьдзейсьненым групай асобаў, з асаблівай жорсткасьцю. Пастанову абласнога суду падтрымаў Вярхоўны суд.

Сьледзтва доўжылася працяглы час, цягам якога была праведзеная вялікая колькасьць экспэртызаў, у якасьці сьведкаў дапытана некалькі дзясяткаў чалавек. Аднак, як адзначылі ў Генпракуратуры, віна школьнікаў была пацьверджаная толькі ўскоснымі доказамі. Службовай праверкай, праведзенай Генпракуратурай, устаноўлена, што пры расьсьледаваньні крымінальнай справы апэратыўнымі супрацоўнікамі органаў унутраных спраў кіраўнікамі сьледчай групы і сьледчымі, што ўваходзілі ў ейны склад, былі парушаныя патрабаваньні КПК пра забесьпячэньне правоў удзельнікаў працэсу, пра парадак правядзеньня шэрагу сьледчых дзеяньняў і належнага іх афармленьня. У Генпракуратуры сьцвярджаюць, што ў пэўнай ступені недагляды і недапрацоўкі па справе сталіся магчымымі з-за недастатковага кантролю і нагляду за ходам яго расьсьледаваньня з боку кіраўніцтва і іншых службовых асобаў пракуратуры Віцебскай вобласьці, пракурорскіх працаўнікоў Генэральнай пракуратуры.



Па выніках разгляду гэтага пытаньня загадам генпракурора пракурору Віцебскай вобласьці Дыско, ягонаму намесьніку Сідаровічу, старэйшаму сьледчаму сьледчага адзьдзелу Крыштопенку, намесьніку начальніка сьледчага адзьдзелу пракуратуры Віцебскай вобласьці Байданаву аб'яўленыя вымовы. Начальнік сьледчага адзьдзелу пракуратуры Віцебскай вобласьці Шчацько папярэджаны пра няпоўную службовую адпаведнасьць, сьледчы па найважнейшых справах сьледчага адьдзелу абласной пракуратуры Таўтын паніжаны ў клясным чыне на шэсьць месяцаў. Старэйшаму пракурору ўправы Генэральнай пракуратуры па наглядзе за расьсьледаваньнем крымінальных спраў у ворганах пракуратуры Старасьцінай аб'яўленая заўвага. Пытаньне наконт прыцягненьня да дысцыплінарнай адказнасьці яшчэ двух пракурорскіх працаўнікоў будзе вырашанае пасьля іх выздараўленьня і выхаду на працу.

Крымінальная справа пра забойства віцябляніна, якая паступіла з суду, накіраваная ў сьледчую ўправу Генэральнай пракуратуры для арганізацыі дадаткова папярэдняга расьсьледаваньня. Цяпер пракуратура праводзіць праверку ў адносінах да супрацоўнікаў міліцыі, што ўдзельнічалі ў расьсьледаваньні крымінальнае справы.

15 красавіка

### Сяргей Малалеткін спыняе галадоўку



Сёньня а 20:00 Сяргей Малалеткін выходзіць з галадоўкі: спачатку будзе ўжываць сокі і паціху пярэйдзе на звыклы рэжым харчаваньня. 49-гадовы жыхар Воршы галадаваў з 1 красавіка на знак пратэсту супраць прысудаў удзельнікам менскіх падзеяў 19 сьнежня. Ягоная галадоўка праходзіла пад дэвізам "15 дзён голаду - замест 15 сутак арышту", бо спадар Малалеткін пэўны, што 15 сутак арышту - гэта максімальнае пакараньне, якое магло б быць прысуджанае за ўдзел у "несанкцыянаванай акцыі", як гэта кваліфікуецца ў адміністрацыйным заканадаўстве. Таму пакараньні на гады зьняволеньня, якія атрымалі апазыцыйныя актывісты, ён лічыць выключна несправядлівымі.

Галадоўка далася Сяргею Малалеткіну цяжка. Ён мусіў адмяніць прыём лекаў, якія ўжываў штодня з прычыны хранічных хваробаў, і схуднеў на некалькі кіляграмаў. Аршанскі актывіст раней ужо меў досьвед галадоўкі: аднойчы ён адгаладаваў тыдзень. 15 дзён бязь ежы, на адной вадзе, ён пратрымаўся ўпершыню.

18 красавіка

### Аляксандра Атрошчанкава перавялі ў працоўны атрад



Аляксандра Атрошчанкава, прэсавага сакратара былога кандыдата ў прэзыдэнты А. Саньнікава, пасьля хваробы на грып перавялі ў працоўны атрад, дзе ён будзе рамантаваць абутак. Пра гэта паведаміла Радыё Рацыя, спасылаючыся на жонку палітыка Дар'ю Корсак. Аляксандар Атрошчанкаў адбывае пакараньне за "арганізацыю і ўдзел у масавых непарадках" у калёніі "Віцьба-3". На выходных яго наведалі бацькі. Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала А. Атрошчанкава вязьнем сумленьня.

16 красавіка

### СЁНЬНЯ ЖЫХАРЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ ПРАЦУЮЦЬ БЯСПЛАТНА

Разам з насельніцтвам усёй Беларусі, жыхары Віцебшчыны працягваюць савецкую традыцыю "добраахвотнага" ўдзелу ў суботніках,



запачаткаваную бальшавікамі на пачатку мінулага стагодзьдзя. Як паведамляе БелТА, спасылаючыся на камітэт эканомікі Віцебскага аблвыканкаму, каля 490 тысячаў жыхароў вобласьці выказалі ахвоту бясплатна папрацаваць сёньня на аб'етах рэспубліканскага суботніка.

Працоўныя калектывы прамысловых прадпрыемстваў рэгіёну сёньня працуюць на сваіх працоўных месцах задарма, нягледзячы на тое, што паводле працоўнага заканадаўства прадугледжаны абавязак наймальніка прадаставіць працаўніку кампэнсацыю за працу ў выходны дзень. Некаторыя ўдзельнікі суботніка заявілі, што яны выйшлі на працу пад прымусам.

19 красавіка

## Міліцыянты імкнуцца патрапіць на дзень народзінаў да Валерыя Шчукіна



Міліцыянты спрабуюць уварвацца на менскую кватэру дачкі вядомага праваабаронцы зь Віцебску Валерыя Шчукіна. Як паведаміў "Свабодзе" Валеры Шчукін, на кватэры, дзе зараз знаходзіцца ён, сабраліся ягоныя сябры, каб адзначыць яго дзень народзінаў. Зьнячэўку да кватэры прыйшлі міліцыянты і пад выглядам, як яны сказалі, праверкі дакумэнтаў пачалі патрабаваць адчыніць дзьверы. Валеры Шчукін не падпарадкаваўся прадстаўнікам праваахоўных ворганаў, якіх было недзе пяць чалавек, тады тыя адключылі электрычнасьць, а пасьля адправіліся на працу па дачку праваабаронцы, каб яна адчыніла ім дзьверы.

19 красавіка

## У Менску затрыманыя віцебскія праваабаронцы і журналісты



Група міліцыянтаў уварвалася ў кватэру па вул. Сердзіча ў Менску, што належыць дачцэ Валерыя Шчукіна. Яны перапісалі пашпартныя дадзеныя ўсіх, хто знаходзіўся ў кватэры з нагоды нядаўняга юбілею Шчукіна, а потым "запрасілі" ў міліцэйскую машыну праваабаронцаў Валерыя Шчукіна і Паўла Левінава, а таксама журналістаў Алега Баршчэўскага і Вольгу Карач. Усе чацьвёра віцяблянаў былі адвезеныя ў Фрунзэнскі РУУС г. Менску.

Як стала вядома пазьней, усяго ў пастарунак даставілі 18 актывістаў - усіх, хто знаходзіўся ў доме дачкі спадара Шчукіна. Апроч пералічаных вышэй, сярод тых, хто трапіў у міліцыю, згадваюцца Павал Станеўскі з Гародні і Вячаслаў Андрэеў зь Віцебску. З затрыманых узялі тлумачэньні, прымушалі здаць адбіткі пальцаў, сфатаграфавалі ў фас і профіль. 14 чалавек пазьней адпусьцілі без складаньня пратаколаў. Сама меней на дваіх - Паўла Левінава і Вольгу Карач - першапачаткова былі складзеныя пратаколы аб затрыманьні па падазрэньні ў датычнасьці да тэракту ў мэтро 11 красавіка. Аднак пазьней супрацоўнікі аховы парадку зьмянілі фармулёўкі.

20 красавіка

## Адбыліся суды над праваабаронцамі-"хуліганамі"



Сёньня ў судзе Фрунзэнскага раёну Менску адбыліся суды над затрыманымі напярэдадні грамадзкімі актывістамі зь Віцебску - Алегам Баршчэўскім, Вольгай Карач, Паўлам Левінавым. У выніку старшыні Віцебскай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Вользе Карач далі штраф у памеры 20 базавых велічыняў (700 тыс. рублёў) нібыта за "нецэнзурную лаянку". Таксама ў нецэнзурнай лаянцы абвінавацілі мужа В. Карач незалежнага журналіста Алега Баршчэўскага, яго прысудзілі да 10 сутак адміністрацыйнага арышту. 10 сутак за "дробнае хуліганства" атрымаў і прадстаўнік Беларускага Хэльсінскага Камітэту праваабаронца Павал Левінаў. Суд над яшчэ адным затрыманым напярэдадні - праваабаронцам Паўлам Станеўскім з Гародні быў спынены, бо сьведкі з боку міліцыі заблыталіся ў сваіх паказаньнях і не змаглі падаць суду якіх-кольвек доказаў яго віны.

19 красавіка

## У Віцебску затрыманы яшчэ адзін падазраваны ў датычнасьці да тэракту

Паводле інфармацыі, распаўсюджанай расейскім рэсурсам "Life News", у Віцебску затрыманы яшчэ адзін падазраваны ў датычнасьці да выбуху ў мэтро. 23-гадовы Ільля Коласаў пражываў у адным доме зь Дзьмітрыем Канаваловым. Згодна з папярэднімі дадзенымі, ён ня браў непасрэднага ўдзелу ў тэракце, але ведаў пра тое, што Канавалаў разам са сваімі паплечнікамі робіць выбухоўку і рыхтуе тэракт. Ільлю Коласава затрымалі раніцай 19 красавіка. Як сталася вядома, пасьля допыту ён прызнаўся ў садзейнічаньні забойцам. Інфармацыю пра затрыманьне па справе аб тэракце ў мэтро новага падазраванага пацьвердзіла агенцтву "Інтэрфакс-Захад" крыніца ў праваахоўных ворганах.

Тым часам у Віцебску неадназначна ставяцца да сьцвярджаньняў аб раскрыцьці выбухаў. Шмат хто сумняецца, што затрыманыя - сапраўды вінаватыя ў зьдзяйсьненьні тэрактаў. Некаторыя людзі не выключаюць, што ў адносінах да затрыманых прымяняліся катаваньні, бо яны адразу прызналіся ў некалькіх злачынствах, якія не былі раскрытыя гадамі. Шмат у каго на памяці гісторыя братоў Мурашак, якія паўгода адсядзелі па падазрэньні ў віцебскіх выбухах 2005 г., але іхная віна так і не была даказаная.

20 красавіка

## *Начальства загадвае маўчаць!*



Кіраўніцтва прадпрыемстваў Віцебску праводзіць прафіляктычныя гутаркі з супрацоўнікамі, каб тыя не распаўсюджвалі чутак і не дзяліліся зьвесткамі пра "тэрарыстаў" з журналістамі. За размовы з "пабочнымі асобамі" адміністрацыя пагражае нават звальненьнем. Пра суровае папярэджаньне не разгалошваць ніякай інфармацыі пра падазраваных у выбухах 11 красавіка распавядаюць многія жыхары ДСК - раёну, дзе жылі меркаваныя забойцы.

На вуліцы Рэпіна шмат хто можа паказаць тыя сутарэньні, дзе, паводле інфармацыі беларускай тэлевізіі, знаходзіліся лябараторыі па вырабе выбухоўкі. Мясцовыя жыхары выказваюць сумненьні, што там сапраўды маглі вырабляцца нейкія выбуховыя рэчывы - ніякіх прыкметаў лябараторыі ніхто не заўважыў, звычайныя склепы: неахайна зробленыя перагародкі, драўляныя самаробныя дзьверы, цэмэнтная падлога.

Тым часам жыхары абласнога цэнтру ўсё менш ахвотна размаўляюць з журналістамі - дзейнічаюць пагрозы наконт непрымнасьцяў на працы. Афіцыйных зьвестак пра затрыманых амаль няма: КДБ і пракуратура паведамленьні ў інтэрнэце не камэнтуюць і канкрэтных прозьвішчаў не называюць. Усю інфармацыю абяцаюць агучыць бліжэйшым часам.

19 красавіка

### Мікіта Ліхавід будзе сядзець у Наваполацку



Маці палітвязьня Мікіты Ліхавіда даведалася аб тым, што яе сын будзе адбываць пакараньне ў выпраўленчай калёніі № 10 у Наваполацку. Актывіст руху "За свабоду" Мікіта Ліхавід быў зьняволены пасьля падзеяў 19 сьнежня. Суд Партызанскага раёну г. Менску прызнаў актывіста вінаватым у злачынстве па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага Кодэксу (удзел у масавых непарадках) і прысудзіў яму тры з паловай гады пазбаўленьня волі ва ўмовах узмоцьненага рэжыму. Праваабаронцы лічаць вынесены М. Ліхавіду прысуд незаконным і палітычна матываваным.

20 красавіка

### Адміністрацыя "Нафтану" прапануе незалежнаму прафсаюзу плаціць за арэнду ўнітаза



Як паведамляе сайт praca-by.info, адміністрацыя наваполацкага ААТ "Нафтан" прапанавала незалежнаму прафсаюзу, што дзейнічае на прадпрыемстве, у дадатак да аплаты за арэнду офіса аплачваць таксама арэнду маёмасьці, што знаходзіцца ў памяшканьні. У сьпіс арандаванага абсталяваньня, за якія патрабуюцца дадатковыя грошы, увайшлі два сталы, жалюзі, зьмясіцель, мыйнік і ўнітаз - усяго на суму 484797 рублёў на месяц. Кіраўніцтва прафсаюзу лічыць патрабаваньні адміністрацыі супярэчнымі дзейнай калектыўнай дамове і Закону РБ "Аб прафэсыйных саюзах". Яны ставяць незалежны прафсаюз у няроўныя ўмовы ў параўнаньні з дзяржпрафсаюзам, які "за арэнду ўнітаза ня плаціць".

Дзеяньне калектыўнай дамовы распаўсюджваецца на ўсіх чальцоў калектыву, і згодна з гэтым дакумэнтам незалежны прафсаюз мусіць мець роўныя правы зь дзяржпрафсаюзам. Паводле Генэральнага пагадненьня прафсаюзам павінны перадавацца "ў бязвыплатнае карыстаньне памяшканьні, абсталяваньне, транспартныя сродкі, сродкі сувязі, а таксама ствараецца іншыя, неабходныя для дзейнасьці прафсаюзаў умовы ў адпаведнасьці з Законам «Аб прафэсыйных саюзах»".

21 красавіка

### Затрыманыя сваякі падазраванага ў зьдзяйсьненьні выбуху ў мэтро

Як напісала 21 красавіка расейская газэта "Московский комсомолец", у якасьці падазраванага ў зьдзяйсьненьні выбуху ў мэтро разам зь Дзьмітрыем Канавалавым быў затрыманы ягоны бацька. Генадзь Канавалаў паводле прафэсіі зьяўляецца гадзіншчыкам, і яго падазраюць у вырабе гадзіньнікавых мэханізмаў для выбуховых прыладаў. Іншая расейская крыніца - Інтэрнэт-партал "Life News" - паведамляе, што быў затрыманы і зьмешчаны ў ізалятар таксама і старэйшы брат Дзьмітрыя Канавалава - Аляксандар. Роля брата ў тэракце пакуль не ўстаноўленая. Аднак сьледзтва не выключае, што непасрэднага ўдзелу ў вырабе бомбы і прывядзеньні яе ў дзеяньне ён ня браў. Тым ня менш калі ён ведаў пра плянуемы тэракт і не паведаміў пра яго ўладам - гэта ўжо кваліфікуецца як суўдзел.

21 красавіка

### Праваабаронца Павал Левінаў абвясьціў галадоўку




Прадстаўнік Беларускага Хэльсінскага Камітэту зь Віцебску Павал Левінаў, пакараны адміністрацыйным арыштам тэрмінам на 10 сутак, аб'явіў галадоўку. Павал Левінаў 20 красавіка судом Фрунзэнскага раёну Менску быў прызнаны вінаватым па арт. 17.1 КаАП (дробнае хуліганства). Сам актывіст сваёй віны не прызнае. Ён абвінавачвае міліцыянта Фрунзэнскага РУУС у фальшаваньні пратаколаў затрыманьня. На судовым паседжаньні П. Левінаў паведаміў пра факты грубага абыходжаньня зь ім з боку міліцыянтаў: пры затрыманьні яго павалілі тварам на стол, заламілі рукі, надзелі кайданкі, зьдзекваліся. Таксама праваабаронца паведаміў пра тое, што былі парушаныя ягоныя правы: у судзе яму адмовілі ў праве на абарону.

21 красавіка

### Улады праігнаравалі заявы наконт акцыяў салідарнасьці

Полацкі і Наваполацкі гарвыканкамы праігнаравалі заяўкі наконт правядзеньня акцыяў салідарнасьці з палітвязьнямі, заплянаваныя на 19 красавіка. Заяўкі былі пададзеныя палачанінам Віктарам Калесьнікам і жыхаром Наваполацку Яўгенам Парчынскім. Згодна з заканадаўствам, мясцовыя ўлады мусілі даць адказ не пазьней як за пяць дзён да меркаванага мерапрыемства. Аднак заяўнікі так і не дачакаліся ані станоўчых, ані адмоўных адказаў ад гарвыканкамаў.



Раней, спасылаючыся на розныя прычыны, мясцовыя ўлады Полацку і Наваполацку неаднаразова адмаўлялі заяўнікам у правядзеньні акцыяў салідарнасьці з пакаранымі і зьняволенымі пасьля падзеяў 10 сьнежня. Цяпер жа, калі гарвыканкамы вырашылі навогул "не заўважаць" пададзеных заявак, грамадзянскія актывісты выказалі намер напісаць скаргі ў адпаведныя органы ў сувязі з парушэньнем заканадаўства з боку ўладаў.

22 красавіка

### Аршанскі гарвыканкам забараніў чарнобыльскі пікет



Аршанскі гарвыканкам забараніў праводзіць пікет, прысьвечаны 25-м угодкам катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і папярэдзіў мясцовых актывістаў пра адказнасьць, калі пікет усёткі адбудзецца. Заяўку на правядзеньне акцыі 26 красавіка падаваў у гарвыканкам сябра БХД Яўген Анішчанка. Аднак гарвыканкам не даў дазволу на пікет, матывуючы сваё рашэньне тым, што месца правядзеньня мяркуемай акцыі - пляцоўка каля Дому гандлю - не ўваходзіць у сьпіс месцаў, вызначаных уладамі для масавых мерапрыемстваў.

Згодна з пастановай выканкаму, адзінае месца ў горадзе, дзе гэткія мерапрыемствы могуць адбывацца - гэта пляцоўка ў гарадзкім дзіцячым парку. Але адкрыцьцё сэзону ў парку адбудзецца толькі 1 траўня, і ў дзень, на які плянавалася акцыя, ён будзе папросту зачынены.

22 красавіка

### Сяргей Каваленка адзначыць Вялікдзень у ізалятары часовага ўтрыманьня

22 красавіка віцебскага актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленку супрацоўнікі аховы парадку даставілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе ён павінен адбыць 12 сутак. 8 красавіка Сяргей Каваленка, які мусіў знаходзіцца пад арыштам, быў адпушчаны дахаты пасьля рэзкага пагаршэньня здароўя на 11-ы дзень галадоўкі, у выніку якой актывіст апынуўся ў кардыялягічным адзьдзяленьні гарадзкога шпіталю. Спадар Каваленка падаваў скаргі ў гарадзкую пракуратуру, бо лічыў свае папярэднія арышты незаконнымі. Аднак пракуратура, правёўшы разьбіральніцтва, не задаволіла скаргі апазыцыянэра, і цяпер ён павінен дасядзець прызначаны тэрмін.

Сяргей Каваленка мусіць знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня да 4 траўня. Ён выказаў намер падчас тэрміну зьняволеньня працягваць галадоўку пратэсту супраць, паводле ягоных слоў, "унутранай акупацыі" - супраць міліцэйскага начальства, кіраўніцтва ІЧУ, СІЗА, КДБ.

22 красавіка

### Жыхароў Докшыцкага раёну прымусяць працаваць бясплатна і па нядзелях?



Як піша Інтэрнэт-рэсурс westki.info, у Докшыцкім раёне можа пачацца прымус да бясплатнай працы па нядзелях. Такую выснову можна зрабіць з паведамленьня з рабочай нарады райвыканкаму, якое апублікавана на сайце раённай газэты "Родныя вытокі": "Парадак трэба наводзіць і ў іншых населеных пунктах раёну. Зь людзьмі неабходна весьці растлумачальную работу, практыкаваць правядзеньне суботнікаў, нядзельнікаў", - піша выданьне, пераказваючы парадак дня нарады.

Паводле заканадаўства, ніхто ня можа прымусіць да ўдзелу ў суботніку. Аднак на практыцы гэты прымус адбываецца і практычна не сустракае супраціўленьня з боку працоўных. Такія посьпехі могуць натхніць начальства на тое, каб прымушаць людзей бясплатна працаваць і ў нядзелю.

25 красавіка

### Незалежны друк па-ранейшаму не даходзіць да чытачоў

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) апублікавала вынікі дасьледаваньня, прысьвечанага вывучэньню праблемаў распаўсюду недзяржаўных газэт. Шэраг выданьняў грамадзка-палітычнага накірунку па-ранейшаму ня могуць наладзіць супрацоўніцтва з сыстэмамі распаўсюду "Белпошта" і "Саюздрук". У сьпісе "праблемных" выданьняў згадваюцца і газэты Віцебшчыны.



Газета "Витебский курьер-М", па сутнасьці, спыніла сваё існаваньне. Яе месца заняў нядаўна зарэгістраваны ў Смаленску "Витебский курьер". Новае выданьне ня здолела патрапіць у беларускія сеткі распаўсюду, супрацоўнікі выданьня распаўсюджваюць яго ўласнымі сіламі.

Іншым выданьнем, якое згадваецца ў справаздачы БАЖ, зьяўляецца газэта "Вольнае Глыбокае". У шапікі "Саюздруку" Глыбокага газэта трапляе, але ўсяго толькі па 40 асобнікаў кожнага выпуску. Аформіць падпіску на гэтае выданьне праз пошту па-ранейшаму немагчыма.

25 красавіка

### У Віцебску забаранілі акцыю да ўгодкаў аварыі на ЧАЭС

Віцебскія дэмакратычныя актывісты атрымалі адмову наконт правядзеньня мерапрымстваў да ўгодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Акцыя мусіла адбыцца ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў, але адміністрацыя Чыгуначнага раёну адмовіла актывістам, тлумачачы сваё рашэньне адсутнасьцю дамовы з ЖКГ аб забясьпячэньні парадку на месцы правядзеньня мітынгу. Нягледзячы на забарону, прадстаўнікі грамадзкасьці маюць намер усёадно правесьці жалобнае мерапрыемства. Яны запрасілі жыхароў Віцебска сабрацца а 17:30 на плошчы Свабоды, каб разам прыняць зварот да ўрадаў Расеі і Беларусі пра недапушчальнасьць будаўніцтва новай, Астравецкай АЭС.

27 красавіка

### У калёніі «Віцьба-3» жонцы Аляксандра Атрошчанкава не дазволілі спаткацца з мужам



Нягледзячы на дазвол на спатканьне, выдадзены судом, і ранейшыя абяцаньні адміністрацыі калёніі, Дар'я Корсак так і не змагла сустрэцца з мужам, палітвязьнем Аляксандрам Атрошчанкавым, які асуджаны на чатыры гады зьняволеньня. Прадстаўнікі адміністрацыі калёніі "Віцьба-3" падчас тэлефоннай гутаркі зь ёй казалі, што ня будуць залічваць мяркуемае спатканьне ў агульную колькасьць. Аднак калі жонка палітвязьня паехала ў калёнію разам зь ягонымі бацькамі, высьветлілася, што яе падманулі: спаткацца дазволілі толькі бацькам, а потым заявілі, што ў спатканьні ёй адмоўлена, і пабачыць мужа яна зможа толькі пасьля 16 жніўня.

27 красавіка

### Хрыстафора Жаляпава выклікалі ў міліцыю



Віцебскага каардынатара руху "За свабоду" Хрыстафора Жаляпава праз тэлефон тэрмінова выклікалі ў міліцэйскі пастарунак. Ён мусіў прыйсьці на сустрэчу, прызначаную на 17:00 гадзін 26 красавіка. Аднак актывіст адмовіўся зьявіцца ў Першамайскі РАУС на гутарку наконт "недапушчальнасьці правядзеньня несанкцыянаванай акцыі", бо не было афіцыйнай позвы. Сам актывіст праз мэдыі выказаў меркаваньне, што яго выклікалі ў міліцыю дзеля таго, каб ён ня змог трапіць на акцыю, прысьвечаную 25-м угодкам аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якая мусіла распачацца а 17:30 на плошчы Свабоды. Зладжаная ў Віцебску акцыя не была дазволена ўладамі. Мясцовыя актывісты падавалі заяўку ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну, каб правесьці жалобны мітынг у парку Чыгуначнікаў, але атрымалі адмову.

27 красавіка

## Полацкія актывісты атрымалі двое сутак арышту



Актывістаў грамадзянскага руху суды краіны працягваюць абвінавачваць у дробным хуліганстве - нібыта за нецэнзурную лаянку ў грамадзкіх месцах. Чарговымі ахвярамі абвінавачаньня па гэтым артыкуле сталіся Віктар Калесьнік і Аляксандар Калінцаў *(на здымку)*, якім 26 красавіка судзьдзя Полацкага суду Натальля Дзеравянка прызначыла пакараньне ў выглядзе двух сутак арышту. Актывісты былі схопленыя міліцыянтамі напярэдадні.

Надоечы адзін з затрыманых - Віктар Калесьнік атрымаў адмову з Полацкага гарвыканкаму, куды ён зьвяртаўся па дазвол на правядзеньне пікету да ўгодкаў Чарнобыльскай аварыі. Актывісты выказваюць упэўненасьць, што менавіта ў сувязі з гэтым іх і арыштавалі - з мэтай, каб пазбавіць магчымасьці правесьці ў Полацку забароненыя ўладамі мерапрыемствы.

27 красавіка

## *Распачаўся судовы працэс над журналістам Уладзіславам Стараверавым*



Сёньня ў судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску распачаўся судовы працэс над Уладзіславам Стараверавым. Яго абвінавачваюць у нецэнзурнай лаянцы і непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі. Віцебскага журналіста затрымалі падчас прысьвечанай памяці ахвяраў аварыі на ЧАЭС жалобнай акцыі, дзе ён выконваў свае журналісцкія абавязкі, рабіў фотаздымкі. Пры затрыманьні міліцыянты моцна зьбілі хлопца, зламалі ягоны здымач. Ноч ён правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня.

Уладзіслаў Старавераў зьвярнуўся да судзьдзі з хадайніцтвамі, каб яму далі час знайсьці адваката ды наведаць мэдычныя ўстановы. Ён зьбіраецца засьведчыць цялесныя пашкоджаньні, нанесеныя міліцыянтамі, і схадзіць да кардыёляга, бо мінулай ноччу ў ізалятар часовага ўтрыманьня яму выклікалі хуткую дапамогу. Хлопцу было дрэнна з сэрцам, і ня толькі з прычыны ўчорашніх падзеяў: некалькі дзён таму ён пахаваў маці. Суд над Уладзіславам Стараверавым будзе працягнуты 10 траўня.

26 красавіка

## Віцябляне ўшанавалі памяць ахвяр Чарнобыля супольнай малітвай



26 красавіка каля 30 жыхароў Віцебску сабраліся на жалобную акцыю на Ўсьпенскай горцы, каб ушанаваць памяць ахвяр аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Віцябляне ўшанавалі памяць ахвяр Чарнобыля супольнай малітвай. Размова з Богам каля крыжа Эўфрасіньні Полацкай адбывалася пад пільным наглядам міліцыі. Супрацоўнікаў праваахоўных органаў у цывільным было ня менш чым маліўшыхся месьцічаў.

*Паводле матэрыялаў, зьмешчаных на сайце «Народныя навіны Віцебска».*
*Фота С. Серабро*

27 красавіка

## **У Глыбокім будуць судзіць за санкцыянаваны пікет**



На глыбоцкага актывіста Яраслава Берніковіча склалі пратакол за парушэньне заканадаўства пра масавыя акцыі падчас санкцыянаванага мясцовымі ўладамі пікету. 27 красавіка да Яраслава Берніковіча прыйшлі двое міліцыянтаў. Яму паказалі заяву, падпісаную старшынём райвыканкаму Алегам Морхатам, у якой той просіць даць прававую ацэнку дзеяньням апазіцыянэра падчас пікету 19 сакавіка. Гэта быў адзіны на Віцебшчыне санкцыянаваны пікет салідарнасьці з палітвязьнямі пасьля менскіх падзеяў у дзень прэзыдэнцкіх выбараў. У заяве пазначана, што спадар Берніковіч як арганізатар акцыі нясе адказнасьць за тое, што «выкарыстоўваліся не ўказаныя ў заяўцы агітацыйныя матэрыялы», што на пікеце «быў усталяваны намёт» і што «акцыя скончылася на 10 хвілін пазьней, чым было дамоўлена». Міліцыянты склалі на Яраслава Берніковіча пратакол пра парушэньне заканадаўства пра масавыя акцыі. У глыбоцкі раённы суд актывіст мусіць зьявіцца 5 траўня.

28 красавіка

## Жыхарам вобласьці загадваюць працаваць бясплатна



Не мінула яшчэ двух тыдняў пасьля завяршэньня апошняга рэспубліканскага суботніка, у якім «добраахвотна» ўзялі ўдзел больш за паўмільёна жыхароў Віцебшчыны, як мясцовыя ўлады вырашылі зноў прымусіць насельніцтва да безадплатнай працы ў выходныя. Адпаведнае распараджэньне падпісаў старшыня аблвыканкаму Аляксандар Касінец. Згодна з распараджэньнем 30 красавіка, напярэдадні Сьвята працы, ва ўсіх гарадох і раёнах адбудзецца чарговы - цяпер ужо абласны - суботнік. Жыхары вобласьці мусяць заняцца добраўпарадкаваньнем населеных пунктаў альбо бясплатна адпрацаваць дзень на сваіх працоўных месцах.

28 красавіка

### Міліцыя распачала паляваньне на ўладальнікаў пнэўматыкі



Як паведамілі «Народныя навіны Віцебска», 23 красавіка на чыгуначным вакзале абласнога цэнтру быў затрыманы 29-гадовы віцяблянін, у якога ў ходзе асабістага вобшуку міліцыя канфіскавала пнэўматычны пісталет МР-654К калібру 4.5 мм і 254 стальныя кулі ВВ. Згодна з артыкулам 14 закону «Аб зброі» пнэўматычная зброя з рульнай энэргіяй ня больш за 7.5 Дж рэгістрацыі не падлягае і набываецца грамадзянамі без атрыманьня адмысловага дазволу. Аднак гэта ўжо ня першы выпадак, калі ўвагу праваахоўнікаў вобласьці прыцягваюць "павятроўкі". Папярэдні аналягічны выпадак адбыўся 14 красавіка: тады на чыгуначным вакзале Воршы быў затрыманы 23-гадовы жыхар Іванава, у якога канфіскавалі пнэўматычную вінтоўку "Юнкер-3".

29 красавіка

### Міліцыянты перашкодзілі правядзеньню акцыі «Стоп-бэнзін»



Ад 40 да 50 аўтааматараў зь Віцебску 28 красавіка ўзялі ўдзел у агульнарэспубліканскай акцыі "Стоп-бэнзін" супраць падвышэньня цэнаў на паліва. Аўтамабілісты зладзілі чаргу на адной з заправак, пазалівалі ў бакі па паўтара літры бэнзіну і, разьлічыўшыся дробнымі купюрамі, рушылі ў цэнтар гораду з уключанымі аварыйнымі агнямі. Аднак з-за ўмяшаньня міліцыянтаў удзельнікам акцыі не ўдалося прыцягнуць увагі іншых аўтамабілістаў. На трасе Р21, дзе актывісты зрабілі чаргу, быў выстаўлены пост ДАІ, і інспэктары выпускалі машыны ў горад невялічкімі партыямі - па 7-10 аўтамабіляў. Далей, на працягу ўсяго маршруту, на кожным скрыжаваньні таксама стаялі інспэктары. Яны выхоплівалі з шэрагу ўдзельнікаў аўтамабілі, быццам бы дзеля праверкі. У выніку, праз цэнтар гораду рухаліся ўжо групкі па 3-5 машынаў, якія, нягледзячы на налепкі акцыі і аварыйныя агні, асаблівай увагі прыцягнуць не маглі.

Большасьць уладальнікаў аўтамабіляў пасьля праверак адпускалі, але адзін аўтамабіліст быў аштафаваны, нібыта за размову па сотавым падчас руху, хаця, паводле ягоных словаў, ён нават не трымаў слухаўку ў руках. Абураныя гэткім абыходжаньнем віцебскія аўтааматары паабяцалі зладзіць новую акцыю - пад назовам "Стоп-ДАІ".



29 красавіка

### Алег Баршчэўскі і Павал Левінаў вызваленыя!

Сёньня пасьля 10-сутачнага арышту з Цэнтру ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсьціна ў Менску вызваленыя галоўны рэдактар газэты «Віцебскі кур'ер» Алег Баршчэўскі і віцебскі праваабаронца Павал Левінаў. Ля ізалятара іх сустракалі калегі і паплечнікі - у асноўным актывісты кампаніі «Наш дом».

29 красавіка

### Велапрабег палічылі несанкцыянаваным мітынгам



29 красавіка ў Віцебску адбыўся велапрабег, у якім узялі ўдзел каля 50 раварыстаў, што хацелі прыцягнуць увагу гарадзкіх уладаў да праблемаў велаінфраструктуры. Удзельнікі акцыі меркавалі стартаваць калёнай ад ратушы і праехаць па цэнтральных вуліцах гораду. Аднак супрацоўнікі ДАІ перашкодзілі рэалізацыі першапачатковага пляну: яны заявілі арганізатарам мерапрыемства, што калі раварысты рушаць усе разам, гэта будзе расцэнена як несанкцыянаваны мітынг. У выніку раварысты мусілі зьмяніць фармат правядзеньня акцыі: сабраўшыся на плошчы Перамогі, яны стартавалі невялічкімі групамі - па 5-7 ровараў - і праехалі па маршруце: вуліца Багдана Хмяльніцкага - вуліца імя газэты "Правда" - Смаленская вуліца - праспэкт Фрунзэ - плошча Свабоды. У такім зьмененым выглядзе акцыя не змагла прыцягнуць чыюнебудзь увагу, і, такім чынам, мэта акцыі не была дасягнутая.

30 красавіка

### Моладзевага актывіста звольнілі з працы



У Віцебску адбылося чарговае палітычна матываванае звальненьне. Гэтым разам быў звольнены з працы кіраўнік па Віцебскай вобласьці руху «Маладая Беларусь» Алесь Галавань. Алесь працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў 11-й сярэдняй школе.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.